УДК…
ББК…

Сянкевіч М.
Мае пракосы: Вершы / Мікола Сянкевіч. – Брэст: 2007

У кнізе сабраны творы, напісаныя ў 1986 – 1991гг. і ў 1997г. Большасць з іх друкавалася ў перыядычных выданнях і калектыўных зборніках паэзіі таго часу.

Трывогаю за высокае ў жыцці, улюбёнасцю і хваляваннем прасякнуты вершы аўтара, прысвечаныя маці, роднай вёсцы, землякам, свету дзяцінства.

***

*Напамінак з гадоў маладых*
*(усё роўна,*
*ці косіш, ці пішаш):*
*не брыдзі*
*па пракосах чужых;*
*калі смага –*
*капай там дзе вышай.*

## СВАЕ ПРАКОСЫ

Далёка не ўсе прыхільнікі друкаванага слова ведаюць, што свой шлях у літаратуру берасцейскі празаік Мікола Сянкевіч пачынаў з вершаў.

Першы з іх, «Маці», пабачыў свет у абласной газеце «Заря» 10 чэрвеня 1982 года. Паэтычныя творы друкаваліся таксама ў калектыўных зборніках «Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны», «Агледзіны», у альманаху «Дзень паэзіі–91», у часопісах «Вожык», «Маладосць», «Першацвет», газеце «Чырвоная змена». Такім чынам, гэтая, трэцяя па ліку, кніга павінна была стаць у свой час першай кнігай пісьменніка Міколы Сянкевіча.

Прадстаўленыя ў зборніку сюжэтныя вершы ці вершы-роздумы Міколы Сянкевіча пачынаюцца з любові да роднага краю, з трывогі за зямлю бацькоў. Большасць з іх – хвалюючыя развагі аб беларускай вёсцы і яе жыхарах. Асаблівай любоўю і шчырым лірызмам вызначаюцца вобразы вясковых працаўнікоў. І найперш, жанчын, людзей, на трывушчых руках і плячах якіх трымаецца сённяшная вёска. Выпісаны яны нешматслоўна, але сэнсава ёміста. Мікола Сянкевіч выказваецца ад імя пакалення сялянскіх сыноў, што па волі лёсу сталі гараджанамі. У вершах паэта, бадай, найвыразней паўстае аблічча нашай сучасніцы, беларускай сялянкі- руплівіцы, захавальніцы сям'і, вясковага дабрабыту і народнай этыкі. Праз трапную дэталь, здавалася б, звычайны бытавы, але шматзначны эпізод перадаецца багатая гама пачуццяў і, перад усім, захапленне прыгажосцю людзей вёскі. Вельмі многа выказана ўсяго чатырма радкамі «Песні на вясковай бяседзе». А як багата скрухі, віны і пяшчоты да матулі-працаўніцы, увогуле да няўдзячнай долі вясковай жанчыны, выказана сціплымі радкамі верша «Сялянка»... Заўсёдны цяжар жыцця і працы карміцеляў-вяскоўцаў адбіваецца ў душы паэта і яго герояў крыўдай і болем. Аб гэтым верш «Споведзь», радкі якога ўвасабляюць цэлы жаночы лёс. Разважаючы аб цяжкай долі сялянкі, паэт марыць аб той жаданай пары, калі

> шэрыя аднастайныя хусткі,
> калі плюшавыя жакеты
> і чорныя гумовыя боты
> перастануць быць нацыянальным адзеннем
> нашых маці.

Настрой вершаў мяняецца, калі аўтар піша пра людзей чэрствых, абыякавых. «Круіз сораму» – едкі сарказм пра тых прадпрымальных гора-кіраўнікоў, што на чарнобыльскія грошы адпраўляюцца ў дарагія круізы. Такі круіз – «нахабная ўсмешка пад чорнай, жалобнаю хусткай».

Думаецца, чытач не пройдзе таксама міма змешчаных у зборніку пейзажных вершаў. Толькі паэт можа заўважыць, як «апусцілі вушы буракі, і гарбуз да плота не дабраўся», палюбавацца суседскім катом, што «бы канатаходзец, прабіраецца па вастрыі штакецін»...

Удаюцца Міколу Сянкевічу і гумарыстычныя творы. Усмешка паэта іншы раз сумнаватая. Як, напрыклад, у вершы «Як дурны».

Няма сумнення ў тым, што, зборнік «Мае пракосы» знойдзе свайго чытача.

Мельнікава З. П.,
доктар філ. навук, прафесар

## ***МАЦІ***

Вісяць фотакарткі ў рамках на сценах
У доме маленства майго.
Мы з братам – салдаты, студэнты,
Шчаслівыя між сяброў.
І ведаю: маці ніяк не згадзіцца
Іх зняць і пакласці ў пухлы альбом.
Альбом, скажа, будзе ў закутках пыліцца,
Ды і калі там гартаць той альбом.
А так, засумую – на рамку гляджу.
Гляджу як кладуся, гляджу як не спіцца.
Загляне суседка –
І ёй раскажу-пакажу.
А што той альбом? Будзе недзе пыліцца...

1982 г.

***

У тую жаданую пару,
калі шэрыя аднастайныя хусткі,
калі плюшавыя жакеты
і цёмныя гумовыя боты
перастануць быць нацыянальным адзеннем
нашых маці –
магчыма,
я таксама куплю сабе капялюш,
калі пашанцуе.

1990 г.

***

Раструшчаны дзверы,
Бязлітасна выбіты рамы
У хаце аселай
Паромшчыка дзядзькі Рамана.
Нямнога прайшло,
Толькі летась не стала старога.
Пустое жыллё,
Іклы шкла пад акном, ля парога.
Паржаўлены ложак,
На ложку адзенне старое,
Запылены кошык
На бэльцы, пад нізкаю столлю.
Кручку для калыскі,
Напэўна, не меней стагоддзя.
(Ў юнацтве калісьці
Сюды неаднойчы заходзіў).
Бацькоў ты чыіх,
Чалавек, што рукою вандала
Біў памяць пад дых,
Адчуваючы слодыч удараў?..
Усплеск занавесак
Трывожную цішу парушыць.
Трапечуць, здаецца,
Нябожчыкаў белыя душы.
Ці то дакараюць,
Ці ў роспачы клічуць:
– Ратуйце!..
Сумёт размятаю
На лаве шырокай у куце.

1990 г.

## *СПОВЕДЗЬ*

Хадою вінаватаю
на людзях
(Шчаслівы той,
хто гэтага не бачыў).
Ішла да сцэны.
Хто мяне асудзшць?
Прамова ў дзвюх руках,
мазолістых, дрыжачых.
Не чула ног,
не чула слоў глухіх,
Ледзь прачытала ўсё,
што пісана ў праўленні.
Лепш на таку цягаць
да вечара мяхі,
Чым з вышыні чытаць
пра тыя дасягненні.
Адмовіць не магу,
праз тое і цярплю.
Напэўна, смешна словы вымаўляю.
Калі было вучыць?
Ад раніцы палю,
Дамоў прыйсці – і тут,
як дурню, то хапае.
Цяпер усё.
Прайшоў, нарэшце, сход.
Каму банкет,
каму насіць-падносіць.
Як паглядзець,
не горды ўсё народ:
Так многа пюць,
так часта кавы просяць.
Увагай і мяне не абышлі. –
Прамову у раёнцы друкавалі.
Дзесятка прэміі –
за стол ці мазалі?
«За працу», – уручаючы, сказалі.

1988 г.

## ***СЯЛЯНКА***

З маленства так вадзілася,
Што ў працы не адступіць.
Усё жыццё круцілася,
Цяпер суставы круціць.

Не прыйдзе сон да раніцы.
І чым далей, тым болей
Былое адгукаецца
Ў руках пякучым болем.

Шчэ два гады – і пенсія
За працаю застане.
У сяле – наймаладзейшая,
А ўсё цяжэй світанні.

1988 г.

***АРАТЫ***

Узяў на світанні
каня у брыгадзе,
ў суседа байчэйшага
плуг папрасіў…
Правёў баразну,
прыпыніўся і збрую
падладзіў…
– Дай, Божа,
на ўсякага долю радзі! –
сказаў і, здаецца,
паверыў у тое,
што ён – гаспадар…
Так хацелася волі,
хацелася зноў і зноў
за плугам ісці,
каб на момант
адчуць за сабою
зайздрослівы позірк сыноў,
што пакінулі поле.

1989 г.

## ***ПЕРАСЯЛЕННЕ З ХУТАРА***

На двор, прыбраны зелянінай свежай,
Снапы рудой саломы паляцелі.
Страху здзіралі людзі без усмешак.
З-за плота дзеці спуджана глядзелі.
У роспачы, нібы з якога дзіва,
Прамовіў дзед: “Няхай іх возьме трасца!”
І загучаў прыёмнік наш “Радзіма”,
Таму як тыдзень куплены у лаўцы.
Спявалі песню, ды была трывога
У позірках дзіцячых. І да ранку
ім снілася: у фрэнчы дзядзька строгі
Перакуліў і ўніз спіхаў буслянку.

1988 г.

## ***КРУІЗ СОРАМУ***

*У студзені 1990 г. вялікая група кіраўнікоў рознага ўзроўню арганізавала марскі круіз “СССР – Швецыя – ФРГ – СССР”. Круіз праводзіўся на сродкі, выдзеленыя для аздараўлення жыхароў раёнаў, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы.*

*(З газет)*

На лесвіцы стромкай службовай
Сумлення растрацілі зерне...
Ну, як вам жывецца, панове?
Я чуў – напалоханы вельмі.
Ці сніцца лагоднае мора,
Раскоша, гульба да паўночы,
Ці, поўныя смутку і гора,
Сялянак з-пад Брагіна вочы?
Нідзе не паставілі свечкі.
Кавалак свой мажаце густа.
Круіз ваш – нахабная ўсмешка
Пад чорнай, жалобнаю хусткай.

1990 г.

* * *

Ускраем поля
з луга да жытла
Ідзе табун.
Змярканне на парозе.
Мясцовы бусел,
старажыл сяла,
Агледзіць гурт,
прыпыніцца на стозе:
Ссутуліўся пастух
і крок цяжэй.
Ад статку –
мо не болей палавіны.
Што дзіваваць,
і ў нас, як і ў людзей,
Буслянак болей,
чым сямей буслiных.

1989 г.

## ***ПРАПАНОВА***

Жахлівая быль.
У далёкія пасляваенныя,
прымаючы мяхі з зернем,
нарыхтоўшчык,
таўсташчокі, агрузлы,
перапоўнены важнасцю даручанай місіі,
незадаволена заўважыў
майму дзеду:
“Для нас адно зернейка
калгаснае
куды даражэй, чым твой пуд.”
…………………………………………
Праз столькі гадоў
у гандлёвых залах,
завешаных і застаўленых заморскім дабром
з шасцізначнымі цэннікамі,
вось бы павесіць партрэты
тых
Вялікіх Нарыхтоўшчыкаў.

1990 г.

## *КРЫЖ У НЕПЕРСПЕКТЫЎНАЙ ВЁСЦЫ*

*За апошнія 10 гадоў засталіся без жыхароў 1026 беларускіх вёсак.*

*(З газет)*

Створаны з любоўю нехаванай
цесляром разважным і суровым,
невысокі, вылашчаны дбайна,
малажзейшы за перабудову.
Тут стаяў ён да таго, як раптам
ноччу знік на сорак год ці болей.
Хваляць цёткі добрае начальства,
верацьі не верацьі: хто дазволіў?
У старых абудзіць успаміны,
сабярэ і схіліць да размовы
гэты першы і пакуль адзіны
адгалосак той перабудовы.
Абразок на ім, ручнік на свята –
пра вяскоўцаў мне раскажуць досыць.
Ды шкада – усё больш крыжоў-сабратаў
на счарнелых вокнах, на пагосце.

1990 г.

## *АМАЛЬ ПА КАШПЯРОЎСКАМУ*

Дзеці!
Калі і сёння апоўначы
каму з вас прысніцца нядобры сон,
калі вы ўсхопіцеся з думкай
                    аб ўчарашняй дыктоўцы, –
прабачце…
Магчыма, дайшла чарга да вашага,
далёка не ўзорнага сшытка па мове,
і мне, настаўніку,
у каторы раз
даводзіцца рассякаць чырвоным алоўкам
двухэлементнае "и",
ставячы кропкі,
ці яшчэ бязлітасней
крэсліць яго пасля зацвярдзелых,
пасылаючы вам, мае вучні, –
установку на запамінанне,
даючы сабе –
установку на цярпенне,
на глыбокі роздум
аб лёсе роднай мовы.

1991 г.

## *У ВЯСКОВЫМ КЛУБЕ*

Выдумшчыкі, шчырыя сябры,
Блазнюкі з нявіннымі вачыма,
Трапна цэлім…Бах! І без прычыны
Там і тут захлопалі шары.
А даклад даўгі, даклад стары.
Адарвецца ад ліста вядучы,
Галавою пакруціўшы, гучна:
– Ціск, ці што, ад духаты ўгары.
Дрэнна жарт наш скончыўся тады…
Толькі ў чым былі мы вінаваты?
Кожны год і да любога свята
Быў даклад прыгодны без бяды.
Можа, лепш было і не страляць,
толькі ў чым былі мы вінаваты?
Разам з намі кінадэманстратар
Той даклад не мог перачакаць.

1987 г.

## *ПРА КАРЫСЦЬ ГРАМАТЫКІ*

Гэта дождж граматычных памылак
зеллем догмаў,
інструкцый прарос,
частаколамі матаў густымі
і прамовамі доўга-пустымі,
серыяламі, поўнымі слёз.

1990 г.

## ***ТРЫЯЛЕТ***

Шалее маўклівая рыба,
Як невад прыходзіць да краю.
У вочках, бы ў петлях, канае.
Шалее маўклівая рыба.
Зласней уцякаючых лаюць.
Збліжаюць паспешліва крылы.
Шалее маўклівая рыба,
Як невад прыходзіць да краю.

1991 г.

## ***ЧАРГА НА ВАРШАЎСКІ РЫНАК***

Наўючаныя, колькі сілы,
Бы тыя бляшанкі шпротаў,
Цяжарныя аўтамабілі
Паўзуць да “заходніх варотаў”.

А побач, як вокам адужыць,
Па лузе зялёнаму тчэцца
Газетаў, шкарлупінаў стужка
Зігзагам ля самае рэчкі.

Усё неразумна і дзіка:
Памятыя, у костках газоны,
Бутэлькі, прымеркі, разлікі...
І чайкі крычаць, як вароны.

1991 г.

## *ДАЮЦЬ “ДЭФІЦЫТ”*

Чарга націскала, шумела
Ля ўсіх чатырох уваходаў.
Пачуццямі гнеў верхаводзіў.
З душы вырываўся збалелай.
Здалося: падмурак дрыжыць.
Старая будыніна крамы
З аблупленымі бакамі
Нібы на жывым крыжы.

1991 г.

## ***ПЕРАСЦЯРОГА***

Сват падпіты ў хату “не пускае”.
– Што за людзі і з краёў якіх?
Мо для вас “тавару” і не маем?
Можа, вы якраз бальшавікі?

1991 г.

*   *   *

Стары, палыселы, працёрты дыван,
Што сохне на сёмым паверсе,
Заморскаю, дзіўнаю маркай здаецца...
Адлегласць,
                яна нараджае падман.

1988 г.

* * *

Бы змяя, раўчук на целе волата.
Душыць смага, крона заціхае.
Гіне дрэва, вырвацца не здольнае
З той пятлі, што час не зараўняе.

1987 г.

## *НА АДНОЙ НАРАДЗЕ*

У два рады прэзідыум густы,
Букеты ружаў, вушкі мікрафонаў.
Ледзь шамацяць
лянівыя лісты.
Тут нават словы
песцяць нерухомасць.

1986 г.

*   *   *

...запахла жвірам –
твань і гнілыя анучы,
аскепкі посуду і шкла
зубаты,
бліскучы коўш экскаватара
выважыў са дна
задушанага рэчышча,
даючы дарогу
ЖЫЦЦЮ.

1991 г.

## ***РАДЫЁКЛУБУ “ЖЫВОЕ СЛОВА”***

Гартаю юнацкія запісы...
Па-добраму
зайздрошчу Мятліцкаму,
пятнаццацігадоваму паэту.
Радкі Кацi Кункевіч
(згубілася ў дарослым жыцці).
Ці верыцца аўтару,
што недзе ў свеце
жыве тагачасны
няўдаліца-карэспандэнт,
якому і цяпер балюча,
калі *“гнёзды ластавак, бы рукавічкі,*
*студзіць вецер пад шэраю стрэхаю”?*
……………………………………………
Шчымлівы “Зялёны дубочак”,
голас дыктара Кірнажыцкай
у радыёэфіры,
нізка вершаў з
напаўзабытым прозвішчам –
і зноў вяртаешся, удзячны,
у тую шчаслівую пару,
адкуль брала пачатак
разуменне СЛОВА.

1991 г.

## *ПАЧЫНАЮ ЧАМУ АЎТАРУ*
*(спроба актавы)*

Бачыш сам, што кашлаты пракос.
І мурог, і ракітнік укупе.
І каса, як знарок, да таго ж
Рэжа мох, не мінае і купін.
Прыйдзе час – і расшчодрыцца лёс.
Згінуць хібы, няпэўнасць адступіць.
Толькі б рыбай не пахлі пракосы
Юным траўнем і ў спелую восень.

1991 г.

* * *

На лёс, на жыццё наракае
жанчына,
якая на вуліцы люднай
спыніла...
Так голас дрыжачы кранае!
Пра слёзы забыла.
Гаворыць, гаворыць,
бы вечнасць знаёмы,
няйначай.
Знянацку спыняецца,
просіць
за шчырасць прабачыць.
Як твар пасвятлеў ад звычайнай
спагады маўклівай!
І ты, нібы волат,
на вуліцы той,
мітуслівай.
І споведзь чужая ў спакоі
цябе не пакіне...
Усё – як спрадвеку.
Усё – як было, як павінна...

1990 г.

## *ПЕСНЯ НА ВЯСКОВАЙ БЯСЕДЗЕ*

...Прасвятляць галаву,
захмялелую чыста,
Словы простыя, родныя словы!
Упіраюцца локці
ў настольнік квяцісты.
Вочы...
Вочы пявунняў вясковых!..

1991 г.

* * *

З.М.

Пачаць з вяршыні,
з гарачага дыхання прыналежнасці,
і рухацца да пачатку,
да першага закаханага позірку,
да першага дрыготкага дотыку
жаданых вуснаў...
У нас яшчэ будзе час на зваротны шлях,
а пакуль
мы няспешна ідзём ад вусця да вытоку,
да крыніцы,
да жыватворнай крынічкі...
Усё чысцей робіцца вада ў рацэ.

1997 г.

* * *

Прызнання словы падбіраў –
о, хараство спатканняў першых! –
у думках нібыта складаў
шчымлівыя з працягам вершы.
Ды мовіў нешта неўпапад,
студзіў вуголле слоў гарачых...
І плакаў горкі шакалад
ад чысціні грудзей юначых.

1990 г.

## *ЛАД*

Нявестку не любіць цётка Ганулля,
Ды толькі суседкі пра гэта не чулі.
Здараецца, сын загудзе-загуляе –
Сваю «тэрапію» праводзіць старая:
«Глядзіце! Прыцёгся!
Бубніць, не змаўкае!
А жонка не спіць і начамі чакае.
Яна ж прыгажуня, яна – гаспадыня.
Насіць на руках, валацуга, павінен.
Ды з ёю не сорам ні ў будні,
ні ў свята...
І як толькі церпіць
такога вар'ята!"
...І лад, і спакой у сям'і наступае.
Гадалі суседкі:
"Вядзьмарыць старая".
Клянецца: "Нічога не ведаю,
людцы!
Нічога, паверце!.."
А вочы смяюцца.

1988 г.

## *ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ*

Замуж выдала найменшую сваю.
Думкі смутныя спакою не даюць.
Позна вечарам вярнулася ў сяло.
Тут суседкі на парозе: – Як прайшло?..
Кроплю выпілі за новую сям’ю,
Распыталі, як у горадзе жывуць,
У настроі пачыналі гаманіць.
Ды і сёння сэрца матчына баліць?
У суботу, прад вяселлем акурат,
Надта скардзіўся на сына, кажуць, сват:
– Між такіх, як сам, нявесты не шукаў.
Дзе ён толькі гэту дзеўку адкапаў?..
Ой, дачушка, ці патрапіш згатаваць,
Ды ці здолееш гаворку падтрымаць?
Скажаш-вымавіш па-іхняму не так...
Меней года як з бацькоўскага кутка.
Чарка кругам – песня ў хаце загучыць.
Ды і сёння сэрца матчына баліць?

1990 г.

## *У НЯДЗЕЛЬНЫМ ЦЯГНІКУ*

...сказаць тры словы
мэтрам з жыватамі,
сяброўкам іх,
падлеткам жаўтаротым,
яшчэ спытацца,
ці не мусульмане
у тых, з пруткамі,
маладжавых цётак;
прайсці паўз маладых,
што цесняцца ў абдымках,
і выйсці на перон
раней на два прыпынкі...

1991 г.

## ***МАНАШЦЫ***

Жанчына!
На што прамяняла сям'ю?
Не ведаю, як ты і дзе ты.
Табе за адвагу пашану пяюць...
І кволяцца дзеці.
Ганебнае бегства ад блізкіх людзей...
Што просіш у Бога, у Неба?
А мне на слыху галашэнне дзяцей
І сынава:
– Мама! Не трэба!
Ім "маці" –
                    адно з забароненых слоў –
Рашылі даўно, без прынукі.
Забудуць,
            забылі,
                    не ўспомняць наноў
Жывое нябожчыцы рукі.
А недзе сядаеш за трапезны стол
І хрысцішся шчыра, зацята.
Семнаццаць дачцэ,
Віншаванні сяброў.
Адна ты...
Што ж цяжка ад слоў тваіх,
                              кум-жартаўнік,
Бяскрыўдны да горкай аматар:
– Я поўную чарку прашу ўсіх наліць
За тату і... тату.

1997 г.

* * *

Семнаццаць гадоў –
бы семнаццаць раундаў.
Іх было дастаткова,
каб зруйнаваць каханне.
Семнаццаць пабітых калдобінамі вёрстаў –
ад выдыхаў
“мой!”, “мая!”
Да аднайменных
абыяка-ніякіх займеннікаў.
Семнаццаць гадоў –
бы семнаццаць раундаў.
А пасля іх –
руіны.

1997 г.

* * *

Мне б не трэба сюды.
Я прыйсці не павінен
Ні заўтра, ні сёння.
Два ляніўцы-каты
(спіна да спіны)
на ганку
спакой ваш бароняць.

1991 г.

### ***СТАРЫ СУСЕД***

За сем дзесяткаў дробы не спазнаў.
За партай  школьнаю
не адымаў, не множыў...
Паўбохана ў суседзяў пазычаў –
Вяртаў тры чвэрці:
– Дзякуй, дай вам, Божа!..

1988 г.

## *З АКНА АЎТОБУСА*

За чаркаю –
і то пра справу болей.
Сціхае песня на таку і ў полі,
пад вокладкі хаваецца:
не проста
ёй устаяць
ад рок- і шоккаросты.
………………………
Сусед азваўся –
караб дзёгцю выліў:
– Пяюць у лузе.
Нехта зранку выпіў.

1988 г.

## *СПЁКА*

Нібы ў печы парыць дзень які.
Адвярнуўся дождж, за лес падаўся.
Апусцілі вушы буракі,
І гарбуз да плота не дабраўся.

Першы вылет маладых буслоў.
Ботаў белых зняці не ўдаецца.
Суха ўсюды, камянее дол.
Сіліцца раса і не збярэцца.

“Свет згарыць”, – гамонка мужыкоў. –
Дзе ж там той Ілья па небе блудзіць?..”
Нібы скарб, шукаю чарвякоў.
Зноў на цеста давядзецца вудзіць.

1990 г.

### ***ВОСЕНЬСКАЕ***

На белых паліцах падваконнікаў
У аздобе цнатлівых фіранак
Крычаць пра сябе памідоры,
Праз вэлюмы цюлю
Спрачаюцца чырванню
З шарамі вяргіняў ля вокнаў.

1990 г.

* * *

Лістапад у садзе карагодзіць.
Дождж прайшоў,
Прыціх наўмыснік-вецер.
Кот суседскі, бы канатаходзец,
Прабіраецца па вастрыі штакецін.
Халады нячутна набліжаюцца,
Ды гарыць яшчэ вяргіняў цвет.
На даўно пакінутым бульбянішчы
Пустазелле цягнецца на свет.

1986 г.

***ВЕТРАНЫМ ДНЁМ У ПАЎДНЁВА – ЗАХОДНІМ МІКРАРАЁНЕ г.БРЭСТА***

Пясок ты наш, пясочак,
Не сып так моцна ў вочы!

Не замятай дарожкі,
Ды супакойся трошкі!

Ляжаў бы сабе далей
Пад мухавецкай хваляй.

То ж расхадзіўся гэтак,
Няма табе спакою!..

І кволых дрэў шкілеты
Ў барханах галавою.

1988 г.

## ***ЖНІВЕНЬ***
## ***(жартоўны акраверш)***

На зыходзе лета...
Астры каля хаты,
Ладзяць баль баравікі ў бары.
І стагі у лузе – як салдаты.
Восень, восень ходзіць па двары.
Адплывае лета ў край нязнаны,
Й светлым сумам з ім мы паяднаны.

1997 г.

## ***ВЕЧАР  У МІКРАРАЁНЕ***

Паўзмрок вячэрні мякка лёг наўкола.
Пусцее вуліца. Сціхае гул і рокат.
У хованкі гуляюць светлафоры:
І там і тут міргаюць жоўтым вокам.

1987 г.

## *ЯК ДУРНЫ...*

Ці да, ці пасля “Пастановы...”,
А можа, нядаўна зусім
Да бацькі дзябёлы, здаровы
Прыехаў сыночак адзін.

Па чарачцы. Грэх не вялікі.
Было чым запіць-закусіць.
Падняўся стары і паклікаў:
– А зараз пара пакасіць.

Хлапчына чупрыну пачухаў:
– То ж сёння якраз выхадны.
Мне, бацька, даруй, але слухай:
Ты вып’еш – зусім як дурны.

1987 г.

### ***ПАХВАЛІЛІСЯ***

Карась хваліўся спраўна:
“Халодны і гарачы,
Ў смятане, без смятаны
Як страва – многа значу”.

Свіння ў адказ: “Здаецца,
Няма чым выхваляцца.
Хто есць цябе – плюецца.
Ад скваркі ж – ліжа пальцы”.

1990 г.

## *УРОКІ*

Карытца з ежаю. З яго
дзяўбуць па добрай звычцы
чародка жоўтых камячкоў
і маці – дзве індычкі.
Адна індычка ў хуткі час
паснедала на славу,
уселася на пералаз
і ўмомант задрамала.
Другая ж носіцца вакол
наколькі сілы мае
і насядаючых з бакоў
чубатак адганяе.
– Дачка, –кажу, - заўваж сама,
як маці любіць дзетак.
А ў першай – сораму няма.
Матулі ганьба гэтай.
– Не маеш рацыі зусім, –
упарціцца малая. –
Той, на жардзіне, – тата ім...
Ну хто ж не адгадае?

1990 г.

## *ВЕЧАРАМ*

Шкада,
што дні караткаваты.
Ля ганка санкі.
Зазвалі хлопчыкаў у хату
Цяпер да ранку.
Іх пажурыўшы для парадку,
Без тлуму-спеху
Ля печы зноў развесіць бацька
Сыноў “даспехі”.
І рады ён, пяшчоты поўны,
Да слёз шчымлівых.
Сапуць...
Раскінуліся вольна
Іх сны, шчасліва.

1987 г.

## ***УСЁ ПА ПЛАНУ***

Выдатніца Каця
ў малых камандзірам.
Зірнула ў нататнік,
аб'яву зрабіла:
– У пятніцу, значыць,
збіраемся ў пяць.
Я вам растлумачу,
як вершы складаць.
Усё, што па плану,
павінна збывацца.
Ўзяліся старанна
малыя за працу.
Навуку адолець
змаглі за паўдня...
Дзеці ёсць дзеці.
Гульня ёсць гульня.

1991 г.

## ***УСЯМУ СВОЙ ЧАС***

Вядуць у кіно пяціклашак.
Давай ім пагоню і дым.
Прыглушаны шэпт каля касы:
– Як зноў пра каханне – збяжым.

1988 г.

## ***ДЗІВАК***

Сярод свежых адбіткаў далоняў шматлікіх
На прамёрзлым аўтобусным шкле
Ён абрысы ступні праграваe
з цярпеннем вялікім,
Здубянелыя пальцы
дыханнем штораз саграе.

1990 г.

## ***ДЗЕДАЎ УНУК***

Максіму-свавольніку хутка гадок.
(Нічым не абдзелены грыб-таўсцячок.)
– Максімка! Скажы, як карова мычыць.
(Яшчэ раз малога не трэба прасіць.)
– А ну, пакажы нам, як певень спявае.
Усмешкі шчаслівай стары не стрымае.
Унук малайчына. Унук наймілейшы.
– Ды ён, – кажа дзед, –
за мяне разумнейшы.

1988 г.

### ***НЕ ШАНЦУЕ***

– Чаму засмучаны? – пытаюся ў Ігната.
– Ды не шанцуе зранку, вось і ўсё.
На шчупакі хадзілі сёння з татам.
Злавілі толькі восем карасёў.
– А ладныя?
– Ды паказаць не сорам.
Вось не шанцуе толькі, я ж казаў.
Суседскі кот нібы на тое гора.
Я за катом. Тут певень – як чакаў.

1990 г.

***ЗМЕСТ***

Ветраны дзень у Паўднёва-Заходнім мікрараёне г. Брэста
Жнівень (жартоўны акраверш)
Вечар у мікраёне
Як дурны...
Пахваліліся
Урокі
Вечарам
Усё па плану
Усяму свой час
Дзівак
Дзедаў унук
Не шанцуе